


## Курам на смех

***Жлобінскі раён.*** Насмяшылі курэй кіраўнікі ПСУП «Жлобінская птушкафабрыка», калі восенню мінулага года закупілі за кошт валютнага крэдыта імпартнае абсталяванне на суму 2,2 мільёна еўра для цэха забою і перапрацоўкі птушкі і да гэтага часу не толькі не наладзілі яго работу, але нават поўнасцю не растаможылі. Затое не да смеху цяпер заснавальнікам і ўласнікам птушкафабрыкі — ААТ «АФПК «Жлобінскі мясакамбінат»: за гаспадарчую нядбайнасць яны будуць прыцягнуты да адказнасці.

## Па чым сыры не ў Мазыры?

***Гродзенская вобласць.*** Пасля таго, як кантралёры наведалі ААТ «Шчучынскі масласырзавод», прымаўку «Па чым сыры ў Мазыры?» давядзецца перайначваць. Як высветлілася, з 2009 па 2011 гады расійскім фірмам без усялякай папярэдняй аплаты спраўна адгружалася малочная прадукцыя — сыр, сметанковае масла, сыроватка. Між тым, грошы за яе на разліковыя рахункі таварыства не паступалі. Але ні прэтэнзіямі, ні іскавымі заявамі ў суд, ні штрафамі фірмачоў ніхто не трывожыў. Сыраробы толькі заключалі новыя знешнегандлёвыя дагаворы, у якіх не прадугледжвалася папярэдняя аплата, і... бралі для сваёй дзейнасці крэдыты ў дзяржавы. Запазычанасць за адгружаную прадукцыю склала ўрэшце 47,5 мільёна расійскіх рублёў і 7,5 тысячы амерыканскіх даляраў.

Цяпер у Шчучыне добра ведаюць цэны на сыр. Неўзабаве даведаюцца і пра перац, якога добра зададуць адказным асобам таварыства: матэрыялы праверкі перададзены ў праваахоўныя органы.

## Неапетытныя гербіцыды

***Клімавіцкі раён.*** Каністры і пластыкавыя бутэлькі з гербіцыдамі вагой 106 кілаграмаў і актывізатарам для гербіцыдаў аб'ёмам 540 літраў выявілі фінансавыя міліцыянеры на ААТ «Клімавіцкі камбінат хлебапрадуктаў». Уласнікі хімікатаў, мінскія прадпрымальнікі, якія нібыта перадалі хлебакамбінату атруту «на адказнае захаванне», ад тавару адмовіліся. Таму сродкі аховы раслін на агульную суму 764 мільёны рублёў аўтаматычна ператварыліся ў... «безадказную атруту».

Калі штраф да 50 базавых велічынь не пужае начальства хлебакамбіната, то факт знаходжання ядаў каля пірагоў ды булачак не можа не спалохаць пакупнікоў. Так можна страціць апетыт на ўсю прадукцыю хлебакамбіната.



Малюнак Алега ПАПОВА.

## Бюракратычныя «забегі»

***Гомельская вобласць.*** Дзіўна, але пра заяўніцкі прынцып «адно акно» для прыёму дакументаў і выдачы даведак адказныя работнікі Жлобінскага райвыканкама, мабыць, і не чулі. Таму грамадзянам, якія прыходзілі па даведкі ці прыносілі дакументы для рэгістрацыі, прапаноўвалася здаць... нормы па бегу. Для гэтага арганізоўваўся «крос» у адпаведныя аддзелы выканкама і падведамасныя яму арганізацыі, дзе ў якасці ўзнагароды выдаваліся або рэгістраваліся патрэбныя паперы.

Толькі праверка спыніла гэтыя бюракратычныя «забегі» на доўгія і кароткія дыстанцыі па чыноўніцкіх калідорах, а служба «адно акно», верагодна, запрацавала...

## Паповыя вочы

***Гродзенская, Брэсцкая вобласці.*** Новы спосаб здабывання грошай апрабавалі на практыцы кіраўнікі асобных прадпрыемстваў. Яны паклалі паповае вока на сродкі, што выдзяляе дзяржава для стварэння новых працоўных месцаў. Так, навагрудскае прадпрыемства «Экаэнергагруп» атрымала пазыку на стварэнне 19 працоўных месцаў. 15 з іх у выніку аказаліся вакантнымі. На «рэшту» начальства вырашыла набыць новае абсталяванне, якое прастаяла паўгода, а затым было перапрададзена заводу-вытворцу. Атрыманыя ж сродкі засталіся ў прадпрыемства: да гэтага часу дзяржаве не вернута 265 мільёнаў рублёў.

Не адставалі ад іх і арганізацыі грамадскіх аб'яднанняў інвалідаў Брэсцкай вобласці. З 2009 па 2012 гады пад заяўленыя планы стварэння 78 працоўных месцаў чатыры арганізацыі атрымалі 2,9 мільярда рублёў і — «сэканомілі» 65 работнікаў. Спісачная колькасць людзей з абмежаванымі магчымасцямі за гэты час вырасла ўсяго на 13 чалавек.

Цяпер, пасля праверкі кантралёраў, прадпрымальныя кіраўнікі не ведаюць, куды падзець свае паповыя вочы...

***Па матэрыялах прэс-цэнтра Камітэта дзяржаўнага кантролю Рэспублікі Беларусь.***

**Уладзімір ЕРМАЛАЕЎ**

## ЗМЕСТ І ФОРМА



Пра змест і форму
распачаўшы спрэчку,
Знайсці тут цяжка
прымірэння жэст.
За прыгажосць
любіў баран авечку,
А воўк любіў яе
за змест.




Малюнак Вікенція ПУЗАНКЕВІЧА.

## МІМАХОДЗЬ

«Не сунь носа ў чужое проса», — павучальна сказаў Кот і схапіў Мыш за хвост.

«І я б рос на вышыні, — казаў Пень, — ды ад зямлі адарвацца не магу...»

**Даслаў Міхаіл ШУЛЬГА,**
*Буда-Кашалёўскі раён,*
*г. п. Уваравічы.*



Малюнак Алега ПАПОВА.

**Эра СТАВЕР**

## «КУЛЬТУРНЫ» ТУРЫСТ

Турыст наш за мяжу сабраўся.
На Кіпры быў, здымаў Парыж...
Культуры так і не набраўся:
Гарланіў там пра свой «камыш».

*г. Салігорск.*




*З натуры*

Трапілася мне аднойчы на вочы цікавае выданне пад назваю «Народны лячэбнік». Зацікавіла ж яно мяне тым, што на вокладцы буйнымі літарамі значылася: «Парада нумара: не блытайце гемарой з гаймарытам — гэта палепшыць ваша лячэнне». Я ўсміхнуўся і падумаў: «Відаць, маецца на ўвазе самалячэнне. Бо доктар гемарой ад гаймарыту адрозніць з ходу. Ды і сам чалавек усё ж адчувае, у якім месцы яму баліць...» Але дзеля цікаўнасці пачаў чытаць далей.

«Як вылечыць страўнік?» Сваімі парадамі дзеліцца мужчына, які памятае іх са слоў сваёй бабкі. Бабулі, на жаль, ужо даўно няма на гэтым свеце, але такім чынам яна лячыла ўсё наваколле і ніхто не скардзіўся. Вядома, каму ж тады было скардзіцца?.. Другі ж «лекар» раіць ужываць ад боляў у страўніку ракавыя шыйкі. Толькі ракаў трэба лавіць пад раніцу і абавязкова самак, інакш намаганні вылечыцца будуць марнымі. Праўда, не ўдакладняе, хвораму трэба лавіць самому ці можа дапамагчы нехта іншы? Метад, з дапамогай якога можна адрозніць самак ад самцоў, таксама чамусьці не называецца...

«Жадаеце пахудзець? Вельмі проста: калі п'еце — ужывайце адну гарэлку без закускі...» Ага, а ў наступным нумары чытайце парады, як выйсці з запою.

«Ад грыпу засцерагае часнок. Дзве галоўкі нанач і тры раніцай. Можна заядаць іх хрэнам. Грып абыдзе вас бокам». Але, бокам вас абыдуць і ўсе родныя, калегі па працы, знаёмыя, сябры, прахожыя...

«Пры стрэсах і неўрозах дапамагае сырая бульба. Перад сном трэба пакласці на падаконнік у спальні ачышчаны клубень і назіраць, як ён чарнее. Гэта супакойвае». На мой густ, лепш той клубень падсмажыць і з'есці. Асабіста мяне смажаная бульба супакойвае на ўсю ноч.

«Пры спазмах стрававода на нервовай глебе рэкамендавана ўжываць вугаль драўніны». Праўда, не ўдакладняецца, вугаль трэба растаўчы ці можна проста грызці галавешку?

«Умацаванню палавога стану ў мужчын садзейнічае абціранне халоднай вадой. Пажадана нанач і на адкрытым паветры». А цяпер, паважаныя мужчыны, уявіце сябе вечарам голым на вуліцы з вядром вады і мачалкай у руках. Не ведаю, як гэта працэдура паўплывае на ваш палавы стан, але на сексуальнага маньяка будзеце падобныя на сто працэнтаў!..

Словам, не «Народны лячэбнік», а «Народны капуснік»! Тым не менш, я сумленна прачытаў усе сорак старонак «выратавальных» рэцэптаў, але так і не ўбачыў ніводнай парады звярнуцца да ўрача-спецыяліста. І гэта, дальбог, зусім не смешна...

**Віталь ЖУРАЎСКІ,**
*г. Жодзіна.*


Малюнак Алега КАРПОВІЧА.


Малюнак Алега ПАПОВА.

*Братка Вожык!*

Зайшоў я неяк да свайго сябра скульптара і заспеў яго ў роспачы. Заказалі яму дзве шыльды з дзяржаўным гербам для адной вельмі важнай установы. Праўда, не напрамую, а праз пасрэдніка. Але калі першая шыльда была ўжо гатова, пасрэднік адмовіўся: маўляў, дорага! Вось каб за гэтыя грошы ды дзве, ды ў метале адліць... Справа тут нават не ў падмануты сябры, а ў тым, што цяпер гэты «дзяяч» ад мастацтва будзе шукаць іншага, больш «таннага» мастака, і адліваць шыльду збіраецца з пластмасы. І тое, як будзе выглядаць тая шыльда праз год ці болей, яго не цікавіць. Асабісты заробак — вось яго галоўная мэта.

Як тут не ўзгадаць вокладку другога нумара «Вожыка» з «Дрэвам разбору»! Гэта ж як павялічваецца цана на тавар, пакуль ён пройдзе праз шэраг пасрэднікаў і трапіць нарэшце ў гандлёвую сетку! І ці не пра гэта казаў Прэзідэнт, які своечасова звярнуў увагу на тое, колькі іх, тых пасрэднікаў, без ніякіх намаганняў кармілася вакол Салігорскага калійнага камбіната, пакідаючы толькі крыхі тым, хто тую калійную соль здабывае! Нешта падобнае атрымалася і ў адносінах да майго знаёмага. І нашто ён, той пасрэднік, калі ў нас ёсць мастацкі камбінат, Саюз мастакоў, скульптары?..

Я задумаўся: а ці не з'явяцца на фасадах нашых устаноў абы-як зробленыя, пластмасавыя шыльды, за якія заплачана як за мастацкую працу ды яшчэ як за сапраўднае ліццё (а там і да больш манументальных помнікаў недалёка), калі за справу будуць брацца вось такія «карабейнікі» ад мастацтва?

**Язэп КРУЧЫНА,**
*г. Мінск.*




*Даражэнькі дружа Вожык!*

Колькі разоў заходжу ў магазін, столькі дзіўлюся асартыменту алкагольных напояў. І якіх толькі назваў не прыдумалі! Нават не буду пералічваць — часопіса не хопіць! Але, не ўсё ж «Загадку», ад якой моташна ўжо тром пакаленням заўсёднікаў вінна-гарэлачных аддзелаў, разгадваць.

А нядаўна, не паверыш, убачыў гарэлку... «Сяброўка»! І каму такое ў галаву цюкнула? Гэта ж колькі выпівох гіне, налізаўшыся такой «Сяброўкі» ці іншай дрэні! Тут сам д'ябал, прабач госпадзі, не прыдумаў бы лепшай назвы. Гарэлка сяброўка тады, калі яна адной чарачкай ідзе. Усе астатнія ўжо і не сябры, а так сабе, а то і наўпрост ворагі лютыя. Каму ў печань такая «сяброўка» ўлазіць, каму ў селязёнку...




На тытунёвых вырабах ужо колькі часу пішуць злавесныя папярэджанні аб шкодзе курэння ды такой чорна-магільнай фрамугай абводзяць, што мароз прабягае па скуры. Нават калі не кінеш курыць, дык міжволі задумаешся. А чаму б, дружа Вожык, і на бутэльках з алкагольнымі напоямі не пісаць падобныя папярэджанні? Няхай бы выпівохі лішні раз задумаліся, што іх чакае. Бо летась на аднаго нашага суайчынніка было выраблена, прададзена і спажыта 26 паўлітэрак саракаградуснай! Улічваючых, як кажуць, і старых і малых. Паводле ж падлікаў Сусветнай арганізацыі аховы здароўя алкагольная дэградацыя пачынаецца за мяжою ў 18 бутэлек на аднаго чалавека...

А то часам як выдумаюць якую-небудзь «Чарку беспахмельную», дык адразу робіцца цікава: а раптам сапраўды без пахмелля абыдзецца? Некалькі знаёмых паспрабавалі гэтую «чарку». Потым кляліся і бажыліся, што млоснасць ад яе такая ж, як ад звычайнай...

**Антось ГАРЧЫЦА,**
*г. Столін.*

**Янусь МАЛЕЦ**

## МІНІЯЦЮРЫ

### Халяўнае гора

Я закахаўся ў паварыху —
І гора горкае займеў:
Праз нейкі месяц ледзьве дыхаў,
Бо на халяву — еў і еў!

### Марная мудрасць

Старэчая мудрасць — вялікая справа,
Яна, часам, быццам у сексе аргазм.
Ды з ёю не пойдзеш налева-направа,
Бо ёсць дамінанты: склероз і маразм.



# Навіны з МУС: матай на вус

## Не той фасон

***Бабруйск.*** Не толькі ў Бабруйску, але, відаць, ва ўсім свеце людзі маюць звычку начаваць дома. Калі ж спаць абы-дзе, то можна пазбавіцца апошніх чаравікаў. Вось і ў 40-гадовай мясцовай жыхаркі, якая пасля змагання з Бахусам трапіла ў абдымкі Марфея проста на вуліцы Дзяржынскага, знікла куртка, мабільнік і 50 тысяч рублёў.

Неўзабаве мясцовыя пінкертоны затрымалі злодзея, таксама жанчыну, неаднаразова асуджаную за крадзяжы. Кажуць, нібыта ў той час яна круцілася перад люстэркам у чужой куртцы. Ліхадзейцы намякнулі, што за такі ўчынак можна прымерыць куртку іншага, больш простага крою, якія звычайна носяць у мясцінах, куды Макар цялят не ганяў.

## «Злачыннае» відэа

***Жодзіна.*** Пільны ахоўнік магазіна «Еўраопт ААТ» Вячаслаў Грудзінаў убачыў злодзея на... камеры відэаназірання. Своечасовы тэлефонны званок па нумары 102 дазволіў міліцэйскаму патрулю па апісанні затрымаць злодзея, які не змог патлумачыць наяўнасць у сваіх кішэнях партаманета з чужымі вадзіцельскімі дакументамі, залатым жаночым бранзалетам коштам каля 2, 5 мільёна рублёў і купюрамі рознай вартасці.

У адносінах «джэнтльмена ўдачы» (непрацуючага мясцовага жыхара) узбуджана крымінальная справа.

## Неправедны сон

***Горкі.*** «Клопат» пра састарэлых праявіў асуджаны за разбой і крадзеж 29-гадовы крымінальнік, калі самавольна пакінуў калонію адкрытага тыпу ў г. Мсціславе. Апынуўшыся ў Горках і добра выпіўшы, ён прадставіўся супрацоўнікам «Энерганагляду» і патрапіў у хату 82-гадовай жанчыны. На гэтым «турбота» скончылася: злачынца адабраў у яе 1 мільён рублёў, а потым, як у рэстаране, заказаў збянтэжанай пенсіянерцы вячэру. Бабульцы нічога не заставалася, як выканаць гэты загад. Зладзюга смачна паеў і, нібыта пасля праведнай працы... захроп.

Прачнуўся «электрык» ужо ў міліцэйскіх наручніках. За праяўлены «клопат» злачынцу пагражае да 6 гадоў зняволення.

## Не пашанцавала

***Магілёў.*** Двух 18-гадовых непрацуючых хлопцаў так замучыла смага, што яны вырашылі ўзламаць халадзільнік для прахаладжальных напіткаў і нарэшце прамачыць горла. За адным разам яны абрабавалі і кіёск на плошчы Арджанікідзе, забраўшы адтуль цэлы стос латарэйных білетаў.

Праверыць, ці ўсміхнулася ім удача, відаць, не давядзецца: зламыснікаў чакаюць турэмныя нары.

***Па матэрыялах Упраўлення інфармацыі і грамадскіх сувязей Міністэрства ўнутраных спраў.***



Малюнак Аркадзя ГУРСКАГА.



Малюнак Алега ПАПОВА.



Малюнак Андрэя СЛУЦКАГА.

## АДНЫ І ІНШЫЯ

Адных п’яніць поспех, а іншых — алкаголь.
Адны гнуць сваю лінію, а іншыя — спіну.
Адны б’юць рэкорды, а іншыя — вулічныя ліхтары.
Адным усё па плячы, а іншым — па кішэні.
Адны гуляюць у футбол, а іншыя — у казіно.
Адны валодаюць тонкім розумам, а іншыя — тоўстым кашальком.
У адных душа наросхрыст, а ў іншых — камень за пазухай.

**Заўважыў Барыс КАВАЛЕРЧЫК,**
*г. Гомель.*



Малюнак Аляксандра ПЯТРОВА.

**Іван СТАДОЛЬНІК**

# НЕЧАКАНЫ варыянт





**Гумарэска**

У нас на заводзе меўся адбыцца сур’ёзны сход, і прысутнічаць на ім збіралася высокае начальства. Павінен быў выступіць на гэтым сходзе і я. Балбатнуў жартам Гулькіну, якога ў нас усе чамусьці недалюблівалі, што сяго-таго пакрытыкую — і ў той жа дзень мой намер зрабіўся здабыткам усяго калектыву.

З гэтага часу Гулькін стаў сваім чалавекам у калектыве, я ж апынуўся ў ізаляцыі. Адны таварышы па службе пры маім з’яўленні пачыналі перашэптвацца паміж сабой, кідаючы падазроныя позіркі на мяне, і трымаліся цяпер падалей, другія стараліся паказаць сябе ў маіх вачах найлепшым чынам.

Цётка Глаша кожную раніцу пачала мыць ды вычышчаць у маім кабінеце. Загадчык нашага аддзела Артур Піліпавіч Моркаўка толькі мне аднаму паведаміў, што неўзабаве чакаюцца кадравыя змены, і ён возьме сабе ў намеснікі таго, хто не будзе выносіць смецця з хаты. Нават наша заўсёды незгаворлівая бухгалтарка Кацярына Максімаўна Пачакайла, калі я прыехаў з камандзіроўкі, не пагнала мяне да начальства ставіць пячаткі, а сама адзначыла маю камандзіроўку.

Неўзабаве і дырэктар нашай установы Арнольд Максімавіч Дыбадзел знайшоў некалькі хвілін, каб праведаць мяне на рабочым месцы і нават перакінуцца словам. Пацікавіўся, ці жанаты я, ці ёсць у мяне дзеці і як здароўе маёй цешчы. А потым, ужо на развітанне, як бы між іншым, паведаміў, што хутка на заводзе чакаецца скарачэнне штатаў і застанецца той, хто ўмее трымаць язык за зубамі...

І вось нарэшце доўгачаканы сход. Не зусім добра атрымалася, што я трохі спазніўся. Прыйшоў, калі з трыбуны наш шэф гаварыў пра дасягненні ўстановы, называў прозвішчы перадавікоў, упершыню сярод іх — і маё. Скажа слова і — зірк на мяне.

Між іншым, ён дыпламатычна намякнуў, што ведае пра мой намер выступіць з крытыкай. А я тым часам сядзеў, як на іголках: вось дык пажартаваў з гэтым дурнем Гулькіным!.. Што ж рабіць? Сапраўды выступіць? Але што мне сказаць?.. Сяджу, набіраюся духу, бо адступаць няма куды. Ліхаманкава выбіраю ахвяру для крытыкі... Ну што, каго? Узяць ды прапясочыць цётку Глашу?.. Ага. Ёсць за што: раней праз дзень падлогу мыла, гэтак жа абы-як і вокны працірала, і слова ёй не скажы — ураз атрымаеш у адказ кулямётную чаргу лаянкі. Але каму тут з супрацоўнікаў гэта невядома? Усе ведаюць. Бадай, скажуць: знайшоў аб’ект для крытыкі. Гэта што з гарматы па вераб’ю пальнуць... Ды і што ёй, цётцы Глашы, уласна, зробіш гэтай крытыкай? Вунь колькі вакансій у яе!..

Выступалі многія, але я не чуў, хто пра што гаварыў, усё ніяк не мог падабраць аб’ект для сваёй крытыкі. Можа, мне загадчыка аддзела Артура Моркаўку калупнуць? Чаму б і не? Каго-каго, а яго ёсць за што: і на рабоце дужа не надрываецца, і з падначаленымі бывае грубаваты, і на прыпісках выскачыць аматар, і прэміяльных паболей ухапіць ніколі не праміне. Вось бы ўзяць ды вывесці яго на чыстую ваду...

Працяг на наступнай старонцы.

Але ён жа пра намесніка аднаму мне сказаў!.. Пэўна, мае на прыкмеце. А я яму за яго дабро! Эх!.. Ну, каго ж тады зачапіць? Хіба самога дырэктара?.. Так, злёгку, далікатненька... Вядома, можна было б і яго. Не анёл... таксама... ёсць за што...

Тут я сустрэўся позіркам з дырэктарам і ўмомант аж дух заняло. Прыгадаў, як дырэктар намякаў на скарачэнне штатаў. Мне зрабілася млосна, кінула ў пот, ногі здранцвелі і па ўсім целе пракаціліся дрыжыкі.

А тут гэты Гулькін — немаведама калі ён апынуўся побач са мной — зашаптаў на вуха:

— Хачу табе параіць: калі ты ўжо намерыўся крытыкаваць, дык з самага міністэрства і пачні.

«Ура!» — хацеў быў крыкнуць я. Вось дзе ён, патрэбны варыянт... Крытыка з перыферыі не заўсёды дасягае міністэрскіх вышынь. А калі ўсё ж дойдзе? Што тады будзе?.. Ад гэтай думкі я міжволі падскочыў на крэсле. Навошта я гэтаму дурню сказаў?

І тут чую сваё прозвішча. З цяжкасцю ўцяміў, што мне далі слова.

Усёй сваёй істотай адчуваючы поўныя трывогі, гневу, спагады позіркі дзясяткаў людзей, нібы на чужых нагах, кірууюся паміж радоў крэсел да трыбуны. А ў галаве ніводнай думкі. Чую смех вакол сябе, адкашліваюся, на хаду кідаю позірк на залу, прэзідыум і ў роспачы сам не ведаю, што мусіць адбываецца далей.

Узыходжу на сцэну і раптам бачу, што за трыбунай стаіць нейкі незнаёмы мажны мужчына. Няўжо мне падалося, што назвалі маё прозвішча?.. А мужчына пачаў гаварыць такім ціхім голасам, які заўсёды ўсе ўважліва слухаюць:

— Перш за ўсё кароткая інфармацыя аб некаторых паказчыках па нашым міністэрстве...

Падняўшыся на сцэну, я нейкую хвіліну аслупянела стаю перад прэзідыумам, потым — само па сабе атрымалася — нахіляюся да старшыні сходу і шапчу:

— Скажыце, калі ласка, ці можна мне выйсці?.. Па вельмі пільнай патрэбе...

Не памятаю, як я спусціўся са сцэны і апынуўся за дзвярыма. На душы было кепска. Адчуваў сябе самым апошнім дурнем. І не адразу ўцяміў, што па шчаслівым супадзенні я аказаўся цёзкам па прозвішчы з адным вялікім начальнікам з міністэрства, які зараз выступаў...

На перапынку падышоў Гулькін.

— Ну дык, што гэта ты сказаў Пушыне, старшыні сходу?

— Сказаў, што адмаўляюся ад слова, — нечакана ляпнуў я.

— Зразумела, — мнагазначна сказаў ён. — Адмовіўся на карысць дзядзькі?.. Не ведаў я, што ты гэткі скрытны. Уся ўстанова ведае, а я толькі сёння здагадаўся!

Я ў здзіўленні моўчкі глядзеў на яго...




## Думкі ўголас

- Лепшы спосаб захаваць зубы — трымаць за імі язык.
- Не паспееш выйсці ў людзі, як час выходзіць на пенсію.
- Рабіць глупства дазволена кожнаму, але ў разумных межах.

**Юрый КУЧУРА,**
*г. Баранавічы.*

- Многа ведаю, але многае ведаю не так, як трэба.
- Усё каштоўнае ўнутры, звонку адны прыдаткі.

**Васіль ДЗЯМБІЦКІ,**
*Талачынскі раён, в. Звенячы.*


Малюнак Алега ПАПОВА.

- Бывае месца і пустое, калі яно ўжо не святое...
- Рукі залатыя, ды горла лейкай.
- Сем разоў адмерай, а рэжа няхай падначалены.

**Сяргей ЛАПЦЁНАК,**
*г. Мінск.*


Малюнак Аркадзя ГУРСКАГА.

Віншуем!

# Анатолю АКУШЭВІЧУ — 60!




Сяброўскі шарж Аляксандра КАРШАКЕВІЧА.

У ліпені наш «левафланговы» — па алфавіце, і не толькі, член рэдакцыйнай калегіі «Вожыка» Анатоль Леанідавіч Акушэвіч «залічаны» ў ганаровую кагорту «шасцідзясятнікаў». Праўда, нам у гэта не верыцца. Заўсёды элегантны і па-мужчынску прыгожы, высокі, бадзёры і ўсмешлівы — словам, сапраўдны «гвардзеец» ад культуры, з'яўляецца ён на парозе рэдакцыі. Нягледзячы на высокую пасаду начальніка Упраўлення культуры Мінскага аблвыканкама, А. Л. Акушэвіч не любіць заседжвацца ў кабінеце, а прападае на сваіх «гарачых» аб'ектах — у клубах, бібліятэках, творчых калектывах. У культуры інакш нельга: ёю не толькі кіраваць, а і дапамагаць трэба! Адна з яго самых адметных якасцей — высокая адказнасць за ўсё, што яму даручана. А ў сучасных умовах культура стала шырокім паняццем: даводзіцца адказваць нават за ўборку і пасяўную... Не сумняваемся: ён умее сеяць разумнае, добрае, вечнае!

Анатоль Леанідавіч выдатна ведае работнікаў культуры, як і яны яго, валодае жывой роднай мовай, на якой піша вершы і прысвячэнні-эпіграмы на знаёмых дзеячаў культуры і мастацтва. Некаторыя з іх друкаваліся ў «Вожыку» і іншых выданнях. Невыпадкова па прапанове рэдакцыі ў 2006 годзе ён быў зацверджаны членам яе калегіі. І мы не памыліліся, хоць сярод членаў рэдкалегій некаторых выданняў сустракаюцца яшчэ «вясельныя генералы», якія проста «ўпрыгожваюць» спісы.

Нягледзячы на «хранічны» недахоп часу, Анатоль Акушэвіч перыядычна наведвае рэдакцыю, каб па-сяброўску пагаварыць, падзяліцца навінамі культуры, задумамі і праблемамі. Дзякуючы яму, больш цеснымі сталі нашы сувязі з бібліятэкамі Міншчыны, узрасла і падпіска на «Вожык».

Мы сардэчна віншуем Анатоля Леанідавіча і шчыра спадзяёмся, што наша сяброўства, дзелавое і творчае супрацоўніцтва будуць доўжыцца яшчэ шмат гадоў. Зычым юбіляру здароўя, новых дасягненняў і творчага плёну!

***Рэдакцыя і рэдкалегія часопіса «Вожык».***

## КАЛАМБУРЫ

### Пётр МЕРГЕС

**Калі б не...**

Не стаў бы злодзеем Кандрат,
Калі б не быў вахцёрам сват.

*г. Івацэвічы.*

### Міхась ДУБОВІК

**Папяровы сіндром**

Захварэлі канцыляры
На сіндром паперманіі.

*Бярэзінскі раён,*
*в. Арэшкавічы.*




Малюнак Вікенція ПУЗАНКЕВІЧА.




# Янку БРЫЛЮ і Пімену ПАНЧАНКУ — 95!

Сёлета ў жніўні спаўняецца 95 гадоў з дня нараджэння двух нашых слынных пісьменнікаў — Янкі БРЫЛЯ (1917 — 2006) і Пімена ПАНЧАНКІ (1917 — 1995). Што ж аб'ядноўвае гэтых самабытных творцаў? Адказ просты: «Вожык»! Разам з К. Крапівой, М. Танкам, М. Лужаніным яны працавалі ў першым рэдакцыйным штаце.

Увогуле жыццёвыя перыпетыі народнага пісьменніка **Янкі (Івана Антонавіча) БРЫЛЯ** былі няпростымі і пакручастымі: нарадзіўся ў Адэсе, маленькім хлопчыкам разам з бацькамі пераехаў на іх радзіму ў Заходнюю Беларусь (вёску Загора Карэліцкага раёна Гродзенскай вобласці), скончыў польскую сямігодку, быў прызваны ў польскую армію, служыў у марской пяхоце, трапіў у нямецкі палон, пазней — сувязны партызанскай брыгады, партызан-разведчык, рэдактар газеты «Сцяг свабоды» і сатырычнага антыфашысцкага лістка «Партызанскае жыгала», супрацоўнік рэдакцыі газеты-плаката «Раздавім фашысцкую гадзіну».

Пачатак творчай дзейнасці Я. Брыля супаў з яго працай у часопісе «Вожык» у першыя пасляваенныя гады. У пісьменніка быў свой, як пазначае крытыка, брылёўскі, гумар. Напіша Іван Антонавіч — і, як кажуць, — ні дадаць, ні адняць. У гумары, як і ў сур'ёзнай прозе — аўтар шматлікіх кніг апавяданняў, аповесцей, нарысаў, замалёвак, мініяцюр, раманаў, кніг для дзяцей, — быў ён майстрам адмысловым.

Шарж Канстанціна КУКСО, *1987 г.*

Народны паэт **Пімен Емяльянавіч ПАНЧАНКА** хоць і нарадзіўся таксама не на беларускай зямлі, а ў эстонскім Таліне, радзімай сваёй заўсёды лічыў прылясны гарадок Бягомль на Віцебшчыне, куды неўзабаве пасля нараджэння сына вярнуліся бацькі.

П. Панчанка скончыў педагагічныя курсы, настаўнічаў на Магілёўшчыне, адначасова завочна вучыўся на філфаку Мінскага настаўніцкага інстытута. З верасня 1939 года да студзеня 1946 года — спецыяльны карэспандэнт, пісьменнік у армейскіх і франтавых газетах. Прымаў удзел у паходзе Савецкай Арміі ў Заходнюю Беларусь, у баях на Бранскім, Заходнім, Калінінскім, Паўночна-Заходнім франтах, знаходзіўся з часцямі Савецкай Арміі ў Іране. Ужо адразу пасля вайны былы франтавік пачаў працаваць у «Вожыку». Сам пісаў шчымлівую лірыку ды шчыра падтрымліваў маладых гумарыстаў. Яго гумарыстычныя вершы сабраныя ў адзінай кнізе «Гарачы лівень» (1957), якая выйшла ў «Бібліятэцы «Вожыка».

Пісаў Пімен Емяльянавіч і эпіграмы на сваіх калег. Некаторыя з іх стануць вядомыя з дзённіка паэта, які друкаваўся пасля яго смерці ў часопісе «Полымя».

А сёння мы, згадваючы творчасць слынных пісьменнікаў, сёлетніх юбіляраў, якія ўмелі і любілі шчыра смяяцца, згадваем і некаторыя іх сатырычныя і гумарыстычныя творы.



Шарж Міколы ГІРГЕЛЯ, *1992 г.*

## ШТО СКАЗАЎ КОМІН

Я прыехаў дахаты, у Мірскі раён Баранавіцай вобласці.

Родны, з маленства знаёмы, асенні краявід. Уносячы ў яго новае, на пасляваенных папялішчах вёсак адзін за адным устаюць светлыя плямы зрубаў і стрэх. Брыгады цесляроў нястомна нясуць свой уклад у адбудову краіны.

А над усім гэтым узвышаецца нованароджаны цагельны комін, паказваючы ўсім, што якраз тут, каля мястэчка Турэц, будуецца новы, першы ў раёне цагельны завод.

Куды-б я ні павярнуўся, што-б ні рабіў, — ён, гэты комін, усюды бачыць мяне і не дае спакою: кліча прыйсці да яго, за гару. Што-ж, я не буду чакаць, пакуль ён, страціўшы цярплівасць, пачне ківаць мне. Я іду да яго ў першы-ж дзень, каб убачыць і ўсім расказаць, што тут, у маім родным кутку, зямля неўзабаве ўкрыецца мноствам просторных цагляных дамоў.

І вось я за гарой, ля коміна.

— Братка, — стрэў мяне комін, — я хачу табе проста паскардзіцца. Паглядзі толькі, як яны працуюць. Дырэктар думае, мусіць, што я не разумею ці не ведаю, колькі рабочай сілы дадзена яму для пабудовы печы. Замест пяцідзесяці, чамусьці прыходзіць пяць, або дзесяць чалавек. Ды і тыя, як бачыў, поўзаюць вакол мяне, быццам сонныя мухі. А чаму? Таму, што цяпер яшчэ толькі чатыры гадзіны, застаецца дзве гадзіны да канца рабочага дня, а ўжо наглядчык і тэхнарук пайшлі дахаты. Наіўны дырэктар думае таксама, што я не чую, аб чым гавораць паміж сабою рабочыя. Возчык штодня лаецца, што няма чым карміць коней, а ўсе разам яны ніяк не могуць разгадаць, куды дзяюцца тыя прадукты харчавання, што адпускаюцца ім.

Вось гэтая цэгла, як кажуць рабочыя, ляжала тут яшчэ тады, калі пра мяне ў гэтым месцы была толькі гутарка. Ах, калі-ж з яе вырасце, нарэшце, печ! Дагэтуль мне толькі брыдка за іх, а хутка будзе халодна. Баюся, сёлета мне не дачакацца таго, што яны сагрэюць, нарэшце, маё доўгае нутро гарачым дымам. Яшчэ ў мінулым годзе яны распачалі закладку фундамента, залівалі каменне вапнай у самыя маразы. І што-ж, вясной прышлося выдзёўбваць яго назад: патрэскалася. Баюся, што сёлета будзе таксама, і печ гатова застацца няскончанай і павеці ненакрытымі.

Вунь ля пушчы, уздоўж Нёмана, цягнуцца нашы партызанскія вёскі. У іх яшчэ шмат пажарышчаў. Яны першыя чакаюць цэглы на новыя хаты і печы. Часамі, мне проста страшна ад думкі, што вось яны ўсе збяруцца разам ды прыдуць сюды...

«Дакуль гэта, — скажуць, — мы будзем чакаць? А ну, пакажыце, што вы тут робіце другі год, схаваўшыся ў лагчыну?»

І што-ж я ім пакажу? Чым я пачну апраўдвацца? На каго тут звярнуць усю віну? Няўжо на рабочых? Няўжо на дырэктара? Ці на тых, што кіруюць раёнам?

Сам я, братка, ніяк не магу разабрацца. Ты вось вазьмі, перакажы мае словы людзям. Няхай іх пачуюць тыя, хто здолее памагчы.

**Спаўняю**
**просьбу завадскога коміна**
**Янка БРЫЛЬ.**

*«Вожык», № 15, 1946 г.*

## Пімен ПАНЧАНКА

### Бульба

Так ісці на захад, гэтак перці
За эпоху можна толькі раз.
Есці захацелася да смерці,
Ну, а повар з кухняю заграз.

Падцягнулі рамяні з тугою,
Леглі адпачыць пад сіняй хвояй,
На сухой абочыне шашы,
Рай — для ног, цыгарка — для душы...

Спрэчка пачалася нечакана:
Што смачней з усіх вядомых страў?
«Хаш і лобі! — першым крыкнуў Вано, —
Я-б сем місак зараз увабраў».

«Плоў, — сказаў Ахмет. — Калісьці дома...»
І пацмокаў смачна языком.
А Гурген ускочыў: «Вы знаёмы
З ерэванскім сочным шашлыком?»

Я тут узгарэўся не на жарты:
«Вашых страў я ганіць не хачу:
І яны што-кольвек, пэўна, варты,
Як хвалілі знаўцы іх — я чуў.

Сорам пра найлепшае не ведаць, —
Рынуўся я ў наступ на байцоў, —
Калі смачна хочаце паснедаць,
Закажыце бульбы з селядцом.

Печаная бульба — гэта казка,
Паскрабеш нажом — і калі ласка.
Жоўтая скрынка, як пірог,
Будзеш уплятаць яе за трох.

Трапіш да кабеціны рахманай —
Паспытаеш, друг мой дарагі,
Дранікі са свежаю смятанай,
Бабку, клёцкі, нават пірагі,

З нашай бульбы тысячу, не меней,
Смажаць і гатуюць розных страў»...
Я ўсхапіўся з месца і з натхненнем
Песню ім пра бульбу праспяваў.

Бачу: праняла мая прамова,
Зараз крыкнуць: «Дзе яна? Гарні!»
...Добра, што пад'ехаў ротны повар
На рудым запараным кані.

### Прычына

Пятым сыночкам усцешана маці,
Кніжак, газет стала многа у хаце.
Токар адменны, шмат зарабляе.
Кніжку ці дзве кожны дзень ён купляе.
Маці шчаслівая сынам любуецца,
Толькі ў апошні час крыху турбуецца:
Што за прычына
Гэткая ў сына —
Кніжкі купляе,
Ды мала чытае?
Ўбачыла маці нядаўна кіёск,
Сын да кіёска нібыта прырос.
А у кіёску сядзела прычына —
З чорнай касой маладая дзяўчына.
Раптам чамусьці ад кніг сын адбіўся
І табакурам заўзятым зрабіўся
(А не цягнула ж да курава змалку),
Кашляе, паліць штохвілі запалкі,
Цягне штодня пачкі тры «Беламора»,
Дома запасу ўжо цэлыя горы.
Маці маўчала, нічога не радзіла:
Можа, дзяўчына чарнявая здрадзіла?
Неяк ішла паўз ларка з папяросамі.
Глянула: тая! Яна, чорнакосая.
Сэрцы трывогаю ўміг ахапіла:
Што як яе перакінуць на піва?
Трэба-ж ёй будзе выконваць планы,
Значыць, сынок кожны дзень будзе п'яны?
Хоць і вялізная матчына хата,
Покуль расселяцца, ў ёй цеснавата:
Пяць-жа сыноў ды чатыры нявесткі,
Ну, а паколькі трывожныя весткі —
Хай-жа нявестка з'яўляецца пятая!
Гэта ўсё-ж лепш, чым гарэлка праклятая.

*«Гарачы лівень», Мн., 1957 г.*

# Кнігарня «Вожыка»



## Народжана «Натхненнем»

Здаецца, зусім нядаўна паэтка Лёля Багдановіч прыходзіла ў нашу рэдакцыю, каб параіцца і папрасіць падтрымкі ў выданні зборніка сатыры і гумару «З усмешкай і ўсур'ёз». Тады «Вожык», не марудзячы, «з усмешкай» прачытаў рукапіс і «ўсур'ёз» параіў выпусціць яго ў свет. Нават выдаў адпаведную рэкамендацыю для будучага выдаўца. І вось той рукапіс пераўтварыўся ў добра аформленую кнігу.

Гэты зборнік — вынік калектыўных «гумарыстычных» пошукаў літаб'яднання «Натхненне», якое дзейнічае ў барысаўскім Палацы культуры імя М. Горкага. А ўзначальвае літаратурную суполку таленавітая паэтка, добры сябар і аўтар «Вожыка», руплівы арганізатар Л. Багдановіч. На творчым рахунку «Натхнення» гэты зборнік — трэці па ліку, але першы ў жанры сатыры і гумару. У калектыўным аўтарстве «замешаны» каля дваццаці членаў літаб'яднання. Сярод іх як прафесійныя пісьменнікі, журналісты, так і аматары прыгожага пісьменства: Л. Багдановіч, В. Гілевіч, М. Градовіч, С. Дзенісюк, А. Дзегцярова, Л. Валасевіч, А. Мазгоў, Г. Сяргеенкава, В. Леві, В. Анкудзінава, А. Лапошыч, У. Рудзік, Р. Рубінчык, Л. Малчанская, Р. Зарэмба і іншыя.

Зборнік атрымаўся вельмі разнастайным па жанрах, тэматыцы і змесце. Тут сапраўдны гумарыстычны калейдаскоп: гумарэскі, байкі, пародыі, сатырычныя мініяцюры, афарызмы. Дарэчы, некаторыя з аўтараў зборніка прынялі актыўны ўдзел у вожыкаўскім юбілейным конкурсе. Так, прызёрам стала Лёля Багдановіч (II месца), а Алена Дзегцярова атрымала заахвочвальны дыплом. Яны былі ўдастоены права




выступіць на сцэне Дома літаратара на вожыкаўскай вечарыне. Уважліва пазнаёміўшыся з кнігай, «Вожык» вырашыў тое-сёе з «выбранага» ім надрукаваць у далейшым на сваіх старонках, а калі-небудзь і сустрэцца ў Барысаве з «Натхненнем».

Віншуем і — да сустрэчы!

Вожыкаўцы.

Малюнак Аляксандра КАРШАКЕВІЧА.



— Ён піша казкі!

Малюнак Аркадзя ГУРСКАГА.



Малюнак Уладзіміра ЧУГЛАЗАВА.






# ВІНШУЕМ ПЕРАМОЖЦАЎ!

## Завершаны «юбілейны» конкурс

*(Працяг. Пачатак у № 6 за 2012 год).*

## III месца

## Таццяна ДЗЕМІДОВІЧ

### Як бабуля ікрой частавалася

*Гумарэска*

У 80-я гады мінулага стагоддзя ў нашых крамах было небагата. Замест дэфіцытных цукерак мы звычайна куплялі сухі кісель і з задавальненнем грызлі яго, а астатнія далікатэсы нам замянялі закаткі з ураджаю бабулінага агарода.

А яшчэ ў нас з братам была любімая кулінарная гульня. Мы даставалі з шафы кнігу «Аб смачнай і здаровай ежы», гарталі старонкі і навыперадкі пляскалі далонькамі па малюнках. Хто першым крыкне слова «маё», той і перамог. Вядома, часцей перамагала я, бо была старэйшай і хітрэйшай. А брат нярэдка ўцякаў са слязьмі на вачах скардзіцца маме. Маўляў, Таня ўжо дзве курыцы з'ела і ананас, а я толькі грыб сушаны ўхапіў.

І вось аднойчы бацька дастаў дзесьці літровы слоік сапраўднай чорнай ікры! Цяпер цяжка ўявіць, колькі гэта каштавала! Але заморская ежа нас не ўразіла. Пах здаўся непрыемным, ды і ікра нясмачнай. Іншая справа — ікра кабачковая, баклажанная ці па бабуліным рэцэпце — грыбная з часнаком!

Але бацькі пераконвалі нас, што гэта вельмі карысная ежа! На тоўсты кавалак батона мама наносіла тонкі пласт масла і, як мазаіку, выкладвала некалькі ікрынак. Карысны бутэрброд мы звычайна атрымлівалі раніцай да гарбаты. Так было да таго часу, пакуль у мамы-настаўніцы не скончыўся летні водпуск. Далей глядзець майго брата павінна была бабуля Ксенія.

— Там, у халадзільніку, чорная ікра, — папярэдзіла бабулю мама. — Прачнецца Алеська — зрабі яму бутэрброд з гарбатай. Ну, і сама паспрабуй, бо ты чорную ікру і не ела ніколі!

— А як жа! Паспрабую! — бадзёра адказала бабуля.

А пасля працы маму на парозе сустрэў заплаканы Алеська.

— Я ж казаў ёй! Казаў! — гучна шморгаючы носам, абурайся ён. — Ікру так не ядуць! А бабуля вялікай лыжкай амаль усё і з'ела...

— Як з'ела? Не можа быць! — не паверыла мама малому і асцярожна пацікавілася ў бабулі:

— Як табе чорная ікра? Смачная?

— Ведаеш, так сабе! — млява адгукнулася бабуля. — Салёная занадта. Я ўсё ж такі менш солі ў ікру паклала б. А яшчэ дадала б лыжку цукру і перац. А наогул, з чаго ты гэтую ікру рабіла? Я так і не зразумела... Ні рыба ні мяса і на гародніну не падобна.

— Вось табе маеш! — усклікнула маці, калі адкрыла халадзільнік. Заморскага далікатэсу заставалася на донцы. — Мамачка, гэта ж была сапраўдная ікра! Разумееш, сапраўдная дарагая чорная ікра!

Але нават і пасля гэтых слоў наша бабуля, якая вырасла на простых беларускіх харчах, так і не зразумела, якую каштоўнасць з'ела. Паглядзеўшы на прыціхлую, азадачаную бабулю, мы пацiху пачалі смяяцца. Не вытрымала і наша мама.

— Ну, малайчына, бабуленька, — усміхнулася яна. — Хоць адзін раз у жыцці ікры чорнай удосталь паела. Сталовай лыжкай. Як у казцы!






## Заахвочвальныя дыпломы і граматы

## Алена ДЗЕГЦЯРОВА

### Фядот і крот

Пасяліўся ў гэтым годзе
Злыдзень-крот у агародзе.
Рые — робіць ход за ходам,
Быцам водзіць карагоды.
Моркву ўсю павыкідаў
І цыбулю скасаваў.
Агурэчнік вяне нешта...
Як злавіць крата нарэшце?
Ўсё не спіць, кляне Фядот:
«Каб ён здох, сляпы той крот!»
Ходзіць у дазоры зранку,
Бо яму не да сняданку.
На крата куляпае пасткі:
«Паспрабуеш маёй ласкі,
Паспытаеш майго маку!» —
І з карбідам — у атаку:
Сыпле парашок у норы
І вады, мо, выліў мора.
А калі крыху стаміўся,
На цыгарку спакусіўся...
Так запалкаю Фядот
Падарваў свой агарод!
А што крот? Усё пануе
І пагрозы ігнаруе.
Хто параду дасць Фядоту,
Як пазбавіцца брыдоты?

*Працяг у наступным нумары.*



Уладзімір ЧУГЛАЗАЎ



## Мастак, якога не пакідае ўсмешка

*Кажуць, што смяяцца Уладзімір ЧУГЛАЗАЎ пачаў яшчэ немаўлём. Варта было некаму падысці да калыскі, як маленькі Валодзя тут жа пачынаў усміхацца. Усміхаўся ён і ў дзіцячым садку, а затым — у школе. Разам з ім усміхаліся яго сябры, з цікавасцю назіраючы, як Валодзя прыдумляе і малюе ў сшытках разнастайныя коміксы. Пазней мастацкі талент быў заўважаны і выкарыстаны ў арміі: сяржант Уладзімір Чуглазаў афармляў ваенныя карты, наглядныя дапаможнікі і іншае. Падчас вучобы ў Наваполацкім політэхнічным інстытуце (неўзабаве пакінуў вучобу, бо зразумеў, што машынабудаванне — не яго прызванне), а затым — Віцебскім педінстытуце на мастацка-графічным факультэце мастак узяўся за старое і зноў пачаў маляваць у сшытках сяброў*





























*комiксы і карыкатуры. Дамаляваўся да таго, што абараняў дыплом па тэме гісторыі карыкатуры. Дарэчы, гэта быў другі выпадак за ўсю гісторыю інстытута, калі тэмай дыплома была абрана карыкатура. Хіба мог мастак пасля гэтага не пасябраваць з «Вожыкам»? Сяброўства гэтае працягвае ўсё жыццё. Уладзімір Уладзіміравіч доўгі час жыў у Брэсце, працаваў мастацкім рэдактарам у розных выданнях, маляваў ілюстрацыі і карыкатуры. Затым вярнуўся ў Полацк. Друкуецца ў абласных і рэспубліканскіх выданнях. Усмешка не пакідае таленавітага мастака-тэміста У. Чуглазава і па сённяшні дзень. Зрэшты, пераканайцеся ў гэтым самі. І ўсміхніцеся!*



## Слова мае Мікола Драч

Вы пэўна чулі, –
Галандцы ўлезлі
З штыком і куляй
У Інданезію.
Якая-ж прычына? Прычына простая:
У гэтай краіне багаццяў мноства.
А можа і ўдасца пакарыстацца
Чужым набыткам, чужою працай?
І вось туды паляцеў ультыматум:
– Ну, дзе вам быць, дзікуны, дыпламатамі?
Ці-ж вам самім утрымаць дзяржаву?
Вялікі клопат, тонкая справа.
Гэта першае, а другое –
Вам зусім не да твару зброя.
Складайце зброю,
Па хатах – армію,
Мы ўсё зробім,
Мы гаспадарныя.
Тады ў нас будзе пярвейшая дружба.
Мы прымем вас да сябе на службу:
Пампуйце нам нафту і плаўце волава,
Расціце рыс, саджайце табак,
Мы ежы дадзім вам, а з вопраткай так:
Тут клімат цёплы – праходзіце голыя.
Інданезійцы гавораць:
– Панове!
Давайце ўспомнім нашы правы.
Ці-ж вы забыліся аб умове,
Якую толькі што, анадове,
Сваёй рукой падпісалі вы?
І мы не зломкі, сабраць умеем
Тое, што самі садзім і сеем.
Нашто нам здаўся клопат чужы?
І раптам тут, з-за адной мяжы,
Не вельмі ласкавы, не вельмі жорсткі,
Чуецца голас нечы заморскі:
«Слухайце, вы там! Як ні кажы,
Галандцы – адна з культурнейшых нацый,
Яны вінаваты нам шмат асігнацый.
Нашто вам свабода, нашто вам мучыцца?
Галандскія войскі намі абучаны,
Пачнецца вайна, паліецца кроў...
Хоць мы далёка жывем, за морам,
А чуем бяду і рыдаем ад гора.
Слухайце лепей раду сяброў:
Галандцы даюць вам умовы сходныя,
Яны карысныя і неабходныя,
Незразумела чаго упірацца?
Прымайце хутчэй і з богам за працу».
З галандскога боку ўдарыў залп.
Як-бы ласкава ён ні казаў,
Як-бы ні слаў гэты дзядзя багаты –


1987 г.
**Сучасная мадонна**
Малюнак Міколы ГІРГЕЛЯ.


1987 г.
– І чакае цябе страта, сум...
Малюнак Канстанціна КУКСО.

Гэта ягоныя рвуцца гранаты,
Гэта яго стракацяць аўтаматы
У расстраляны вайной абшар.
Тут з гандляром старгаваўся гандляр.
Смажаным пахне, яны зацікаўлены
Большае вырваць, смачнейшае каліва.
Добра вядомы такія паслугі:
Прыкрыўшыся мірам, гразіць вайной,
Каб больш зарабіць і пад маскаю друга
Скрозь прыкрываць міжнародны разбой.
Не ашукаеце, ашуканцы!
Відаць здалёк дырыжора руку.
Пазнаць не цяжка, ў каго галандцы
На залатым ідуць павадку.

*«Вожык», № 14, 1947 г.*

# А Х, Л Е Т А!

Лявон **АНЦІПЕНКА**

## ЯК МОКРАЕ ГАРЫЦЬ

*Байка*

Адпрэглі коней двух –
Пацелі дзень у плузе.
Ганяючы хвастамі мух,
Скублі траву на лузе.
Цікавіцца Гняды у Варанога:
– Чаму змакрэлы ты:
Сухія толькі хвост ды капыты,
Папрацаваў замнога?
– Ой, не кажы! Мой гаспадар
За дзень не даў спакою
Ні на хвіліну, пот ракою
Сцякаў і апякаў, як вар.
– А мне пашанцавала:
Замарыўся мала,
Мой гаспадар (не бачыў я такіх)
Прагоніць баразну – і перадых,
Другую – і пад сонцам млее.
Дзе там спацееш!
А паабедаўшы, пад куст прылёг,
Бо піў за чаркай чарку,
А з'еў жа толькі адну скаварку,
Таму зваліўся з ног.
Вось так і працавалі –
Да вечара дзве баразны ўзаралі...

---

Што тут вініць Гнядога?
Гаспадара я сустракаў такога:
Працуе ён, як мокрае гарыць,
Бо справаю сваёй не даражыць.
Калі ж да чаркі дабярэцца,
То ў дым нап'ецца...

*г. Шклоў.*





Ганад **ЧАРКАЗЯН**

## ЛІСТАВАННЕ З ЖОНКАЙ

«Дарагая Каця!

Цудоўна даехаў і зараз адпачываю. Здаецца, усё добра, але сэрца нешта шчыміць. Балюча за Воўку, за нашага роднага сына. Калі б ён ведаў, які ў яго бацька. Проста ўпершыню я змог сур'ёзна падумаць пра жыццё, усё не меў часу. Не трэба хваляваўца, мая харошая Кацька. Проста абставіны склаліся так. Учора тут аднаго мясцовага за вымагальніцтва судзілі (гэта па-нашаму – хабар). Скажаш, пры чым тут вымагальніцтва? Ды не хвалюйся, пастараюся расказаць усё па парадку.

І як знарок, у газеце таксама пісалі аб гэтым. Цяпер дакараю сябе, чаму не слухаўся цябе адносна газет, не трэба было чытаць. Вось так і атрымліваецца: замест таго, каб адпачываць, з учарашняга дня мучуся. А ноччу ў сне сядзеў на лаве падсудных. Ды, дзякаваць богу, гэта быў сон, а я пакуль на волі. Але ўсё думаю, як быць і што рабіць. Бо я і сам як нейкі вымагальнік. Не, ты не думай, што я тут штосьці натварыў. Гэта раней. Калі чэсна – з самага дзяцінства родная маці навучыла і бацька таксама. Калі параўнаць суму, што я браў за харошую вучобу, з газетным прыкладам, то зараз у гэту хвіліну мяне трэба аддаць пад суд.

Мая харошая Кацька, я пакуль на волі. Але перад сваім сумленнем павінен трымаць адказ. Зараз позна судзіць маю маці, бацьку, іх ужо няма. Застаўся я адзін. Значыць, мне аднаму і адказваць. Добра помню, як маці казала: «Еш усю кашу, я табе на марожанае рубель дам». І колькі я такіх рублікаў прысвоіў, каб ты магла ведаць! А бацька колькі даваў! А потым я сам пачаў даваць. Спачатку нашаму Воўку, а потым Віктару Пятровічу, што на базе робіць. Калі папраўдзе, дык толькі за твой касцюм пад суд трэба... А за крышталь, а за крымпленавую сукню, а за сервіз! Выходзіць, мы з табой хаўруснікі. Што будзе пасля – не ведаю. Адно добра, што мы з табой не адны. Вось бяры нашага суседа Аркашу. Паставіў перад сынам умову: паступіш у ВНУ – куплю машыну. І купіў. Як паглядзіш, дык усе да аднаго ці даюць хабар, ці бяруць яго. Толькі часам гэта называецца па-другому.

Глядзі Воўку, не патурай яму. Пастарайся зразумець мяне правільна. Твае заказы, на жаль, не магу выканаць, бо не хачу новых грахоў на сваё сумленне браць. Прывітанне Воўку. Надвор'е цудоўнае. Апетыт таксама. Вышлі паўсотні, атрымаеш трынаццатую зарплату. Твой Саня!»

*З курдскай пераклаў Казімір КАМЕЙША.*

## У ВОЗЕРЫ

– Куды, суседзе, шлях трымаеш?
Ці ад якой бяды ўцякаеш? –
Карась у шчупака спытаў.
І той сваё пралапатаў:

– Плыву на іншы бераг я,
Бо тут стыхія не мая.
Тут ферма ў возера ўпадае,
Атрута вочы выядае.

Карась махнуў хвастом:
– Бывай,
Ваду чысцейшую шукай.
І мне пагібель хутка будзе,
Як застануся ў гэтым брудзе!..

Ды хто бязмоўны крык пачуе,
Ад згубы возера ўратуе?..

**Галіна НУПРЭЙЧЫК,**
*г. Клецк.*



# ЭХ, ЛЕТА!

Яўген ХВАЛЕЙ

## Курортны раман

Прыехаў на курорт Раман
Упершыню з далёкай вёскі,
І пра курортны той раман
Не думаў, што ён ёсць тут.

Уведаў па жыллю сусед:
– Гляджу, ты недацёпа...
Раман той ведаюць усе, –
Вучыў Рамана Сцёпа.

Я, братка, тут дзясяты раз –
Вядомы ўсе «пазіцыі»...
Рамана тут такі «тыраж»!
Засвойвай кампазіцыю.



Уступ...
Выглядвай, дзе адна
На дрэвы голаў задзірае.
А гэта, ведай, што яна –
Як птушачка без гаю.

Слаўко к слаўку –
І ўжо, глядзі,
Раман узяў завязку:
І ты, як сокал, не адзін,
Яна – галубка-ласка.

А там і танцы, і кіно –
Пайшло-пайшло, паехала...
І кульмінацыя даўно,
Як чорцік, вабіць смехам.

Ты толькі маху тут не дай:
Раманы – не куплеты...



Забудзь, што з жонкай быў цюхцяй –
Дары ёй слоў букеты.

Яна пад туманом-дымком
Як ружа ўспыхне ў садзе,
І пацалунак матыльком
На вусны вам прысядзе...



Ды вось бяда! Развязку даць
Раману трэба ўсё-ткі...
Хоць тых дзянькоў шкада-шкада –
Бялюсенькіх пялёсткаў.

А калі дома – не дай бог! –
Не пусціць жонка да парога,
Лічы, што гэта эпілог
Ці замест эпілога.




Малюнак Аляксандра КАРШАКЕВІЧА.



Малюнак Аркадзя ГУРСКАГА.

Міхась СЛІВА

## УСМЕШКІ

### А каму і па калена

Старшыня калгаса, невысокі мужчына, ходзіць па сенажаці з брыгадзірам.

– Пара касіць, трава ўжо вырасла па пояс!

– Каму па пояс, а каму і па калена, – разважліва адказвае брыгадзір, высокі, мажны дзяцюк.

### Звярніце ўвагу!

– Толя, ты яшчэ не казаў нашай лабарантцы Верачцы, што ў яе прыгожыя басаножкі?

– Не, а што?

– Яна ў мяне ўжо двойчы пыталася...

### З галавой

Сустрэліся двое знаёмых.

– Як справы?

– Выдатна. З галавой акунуўся ў спорт!

– І чым займаешся?

– Працую ў басейне.

### Расце дабрабыт

– Ой, Аксаначка, нешта ты апошнім часам распаўнела!

– Гэта я суседзям паказваю, што ў нашай сям'і расце дабрабыт.

*г. Рагачоў.*

Бізнес-класікі

# Альтэрнатыва



















Міні-комікс Аляксандра КАРШАКЕВІЧА.




Павел САКОВІЧ



# Як з'явілася дарожная «зебра»

*Казачная быль*

Гэта адбылося ў нейкім невядомым горадзе. Насупраць школы, праз вуліцу, знаходзіўся вялікі звярынец. Дзеці былі вельмі рады гэтаму суседству. Кожны тыдзень групы школьнікаў наведвалі звярынец. Яго насельнікі таксама былі рады прыходу дзяцей. Усе яны выходзілі, вылазілі са сваіх клетак, вальераў, нораў, каб паслухаць воклічы радаснага захаплення. А яшчэ ім спадабалася, што дзеці прыносілі розныя пачастункі: сушкі, сухарыкі, чыпсы, кавалачкі булак і нават цукеркі. Наведвальнікам забаранялася падкармліваць звяроў і птушак, але хіба ўгледзіш за дзецьмі?

Асабліва падабалася дзецям маладая зебра. Казалі, што яе купілі ў нейкім замежным звярынцы. Яна была надзвычай прыгожай, разумнай і вельмі добрай. Ёй даставаліся самыя смачныя пачастункі. Зрэдку, з дазволу звярынага доктара, ветэрынара, зебры прыносілі рэшткі абедаў са школьнай сталовай. А зебра старалася, як магла, аддзячыць. І не толькі сваімі смешнымі выбрыкамі.

З нейкай пары яе пачалі запрашаць у школу. Тады рэзка павышалася не толькі наведванне заняткаў вучнямі, але і паспяховасць. Зебра на гэтых занятках выконвала ўсяго толькі ролю нагляднага дапаможніка. Затое якога — жывога! Гэта былі ўрокі паводзін дзяцей на дарогах. За школай знаходзілася спецыяльная заасфальтаваная пляцоўка. Белай фарбай тут былі пазначаны скрыжаванні вуліц, тратуары, сям-там стаялі шыльды з надпісам «Пераход». Раней вучні на такіх занятках гарэзілі, бегалі і скакалі. Нават строгія мундзіры даішнікаў іх не спынялі. Між тым, каля школы быў напружаны аўтамабільны рух. Як жа заахвоціць дзяцей вывучаць і выконваць правілы паводзін на дарозе? Тут і з'явілася гэта ідэя...

Зебру звычайна прыводзіў супрацоўнік звярынца. На пляцоўцы для заняткаў да яго далучаўся міліцыянер. Потым зебру вадзілі па пераходах. Вучні дружна хадзілі следам, ледзь не трымаючы за хвост свой наглядны дапаможнік. Пасля заняткаў у школьным гарадку пачалі пераходзіць да практыкі. Зебру пераводзілі праз вуліцу на ўказальніку «Пераход», а за ёй вясёлым натоўпам крочылі школьнікі. Пераход сюды-туды паўтараўся пяць-шэсць разоў, пакуль не пачыналіся заняткі ў другую змену. Зебра то вадзіла дзяцей са школы ў звярынец, то суправаджала іх да школы. Яна так добра вывучыла свой маршрут, свае абавязкі, так асцярожна пераходзіла вуліцу, што ёй пачалі давяраць і настаўнікі, і наглядчыкі звярынца. Вальеру пераcталі зачыняць, і зебра сама выходзіла на свае «дзяжурствы». Да яе прывыклі і дзеці, і дарослыя, і нават аўтамабілісты. Удзельнікі дарожнага руху адчувалі сябе з ёй больш спакойна.

Зебра было ўжо зусім дарослай, але ўласных зебранят не мела. І не таму, што не хацела: проста ў звярынцы яна жыла адна. Для яе збіраліся недзе купіць ці выменяць яшчэ адну зебру, да пары, але нічога не атрымалася. Тым мацней прывыкала, прывязвалася яна да дзяцей чалавечых. Калі надыходзілі выхадныя ці святочныя дні, зебра сумавала па дзецях, па школе і чакала пачатку заняткаў. Асабліва марудна цягнуліся для зебры летнія канікулы. Яна амаль кожны дзень хадзіла да школы, але там дзяжурыў толькі вартаўнік. Зебра пастаіць, пастаіць з ім, паўздыхае і зноў вяртаецца ў свой звярынец...

З радасцю сустрэла зебра першае верасня. На жаль, свята першага званка на гэты раз было не такім шумным і вясёлым, як звычайна. Аказалася, колькасць дзяцей у горадзе пачала зніжацца. Такое здараецца, калі ў людскіх сем'ях мала нараджаецца дзетак. Не таму, што іх не хочуць. Проста складваюцца неспрыяльныя ўмовы. Зебра пра дэмаграфічны крызіс нічога не ведала і не разумела, хто ў гэтым вінаваты. Яна заўважала толькі, што навокал усё менш становіцца вясёлай, шумнай дзятвы. Апусцеў напалову і бліжэйшы дзіцячы сад.

Зебра з'яўлялася на сваё рабочае месца, але замест дзяцей яе часта сустракалі дарослыя. Іншы раз яны пераходзілі з ёй дарогу і давалі



сваe пачастункі. Зебра ўдзячна ківала ўсім галавой, толькі не было ранейшай радасці ў яе вачах. Калі ж яна заставалася ў вальеры і гадзінамі, заплюшчыўшы вочы, драмала, ёй пачыналі мроіцца ўласныя маленькія зебраняты. Вось яна водзіць іх па звярынцы, а потым павяла ў школу, каб пазнаёміць з дзецьмі, папрысутнічаць на любімых занятках. Канешне, гэта былі ўсяго толькі сны, але пасля іх яе ахоплівала нейкае няяснае, радаснае прадчуванне...

І тут якраз так здарылася, што нарэшце прывезлі ў звярынец сябра для нашай зебры. Атрымалася дружная сям'я. Зебры не сталі чакаць, як людзі, нейкіх лепшых часоў: праз пэўны тэрмін у іх з'явілася зебраня. Яно гарэзіла, весялілася, паводзіла сябе, як дзіцё. І побач з ім заўсёды была маці. Палюбавацца на зебраня прыходзілі многія людзі. Паасобку і цэлымі групамі. Адыходзілі неахвотна, з радаснымі, светлымі тварамі.

Цяжка сказаць, што паўплывала на дарослых людзей, толькі ў іх сем'ях зноў пачалі нараджацца дзеці. Адны лічылі, што гэта адбылося пад уплывам агульнай любіміцы зебры. Больш практычныя людзі казалі, што якраз тады наступілі спрыяльныя для гэтага ўмовы. Хутчэй за ўсё супала адно з адным. Школа зноў запоўнілася дзецьмі, а навакольныя вуліцы — вясёлым гоманам і смехам. Зебра-маці паступова пачала прывучаць зебраня да абавязкаў павадыра. Хадзіла з ім у школу на заняткі, паказвала, як трэба пераводзіць дзяцей праз вуліцу.

Калі, здавалася, усё наладзілася, раптоўна захварэла зебра-маці. Уратаваць яе не ўдалося. У той дзень урокі ў школе пачаліся з хвіліны маўчання ў гонар агульнай любіміцы. Аўтамабілісты, таксісты, дазнаўшыся пра бяду ад школьнікаў, давалі доўгія гудкі. Некалькі дзён усе хадзілі прыціхлыя. Адмянілі нават чарговыя заняткі па правілах паводзін на дарозе. Нейкі час на вулічным пераходзе дзеці паводзілі сябе нязвыкла стрымана і асцярожна. Яны сумавалі па зебры.

На жаль, ні зебраня, ні зебра-бацька не маглі замяніць зебру-маці. Не было ў іх пэўнага вопыту і патрэбных здольнасцяў. І вось на адным з заняткаў нехта з вучняў прапанаваў:

— Давайце пафарбуем пераход у чорна-белую палоску. У памяць аб нашай зебры.

Усе задумаліся, а потым дружна падтрымалі прапанову. Нават міліцыянерам гэта ідэя спадабалася. Так дарожная «зебра» з'явілася спачатку на пераходзе ў гарадку для заняткаў, а потым на вуліцы насупраць школы. Калі дзеці пераходзілі вуліцу па чорна-белых палосках, ім здавалася, што яны ідуць, як раней, за сваёй жывой зебрай. Кажуць, з таго часу на гэтым пераходзе не было ніякіх няшчасных здарэнняў. Тады рашылі зрабіць такія «зебры» на ўсіх вуліцах горада. Вучні школы ўпэўнены, што ў іхнім горадзе дарожная «зебра» з'явілася дзякуючы агульнай любіміцы. Інакш як сюды, кажуць яны, за многія тысячы кіламетраў ад месцаў пражывання дзікіх зебраў, магла патрапіць такая назва? Больш таго, некаторыя вучні сцвярджаюць, што гэта пасля іх і ў іншых гарадах паласаты пераход пачалі называць «зебрай».

Аўтар не бярэцца абвяргаць ці даказваць гэта сцвярджэнне школьнікаў.





## Міхась САЗОНЧЫК

### Шышка

Вылез цвік з падлогі,
Просіць дапамогі:
«Мішка!
Дзе твой малаток?
Загані мяне, браток,
Зноў назад, у дошку».
«Папрасі Сярожку, —
Адказаў адразу
Мішка, глянуўшы ў акно. —
Я не маю часу,
Я спяшаюся ў кіно!»
На бягу пасля за цвік
Зачапіўся чаравік,
А баліць, вядома, Мішку,
Бо набіў на лобе шышку.



### Балалайка

Вось дык цуда-балалайка!
Хто на ёй іграе?
Зайка.
Салавей і той замоўк.
Падпявае шэры воўк,
Не ганяе болей зайку —
Скача ён пад балалайку.

**«Вожык» шчыра віншуе свайго даўняга і надзейнага сябра, пастаяннага аўтара, пісьменніка Міхаіла Яфрэмавіча САЗОНЧЫКА з 80-годдзем і зычыць яму моцнага здароўя, творчага плёну і добрага настрою!**




## МІНІЯЦЮРЫ

### Ёсць нагода

– Ты чаго такі вясёлы? –
Запыталіся ў Міколы.
– Кінуў жонку, з хаты – прэч,
І нібыта рогі з плеч!

### Дала згоду

– Перад табой, упаўшы на калені,
Прашу тваёй рукі, Алена.
– Я згодна, ўстань,
ўсё без маны,
Не праціраў ты ўжо штаны!..

**Уладзімір КУЧМІНСКІ,**
*г. Маларыта.*

## З падслуханага

### Каб прыгожа апранацца...

Размаўляюць дзве гарадскія кабеты.

– Пятроўна, ты не ведаеш, дзе працуе дачка Івановых? Заўсёды так шыкоўна апранаецца.

– Дзіва што! Каб так прыгожа апранацца, трэба ўмець распранацца: стрыптыз танцуе ў начным клубе!

**Падслухаў Мікола НАВАРЫЧ,**
*г. Мінск.*




Малюнак Вікенція ПУЗАНКЕВІЧА, тэма Міколы НАВАРЫЧА.

## СОН І ЯВА

О, каб хлопец пры спатканні
Хоць намёк даў на каханне!

А то стрэне – і размова
Пра цялушку ды карову.

А яшчэ пра куранятак –
Вось і ўвесь яго занятак.

Лепш пад зорную вясёлку б
Ён павёў мяне на золку.

Ці ў сунічны гай спакусны –
Ды пацалаваў у вусны...

Потым сон такі сасніла:
З ім па воблаку хадзіла.

Гаварыў ён з хваляваннем
Нешта нават пра каханне.

Паўтараў: – Хутчэй, Алёнка,
Не сяброўкай будзь, а жонкай!

...Саладзей суніц, маліны
Гэты сон быў для дзяўчыны.

**Мікола СІСКЕВІЧ,**
*г. Мінск.*





*Быль*

## ПАПСАВАНАЯ НЯВЕСТА

Здарылася гэта ў далёкія 60-я гады мінулага веку. Жылі вяскоўцы на той час не вельмі багата, затое дружна. Па выхадных часта збіраліся на выгане, каб паспяваць ды патанцаваць. Разам гулялі вяселлі і народзіны.

Добра памятаю такі выпадак. Суседка прынесла навіну: Росцік, хлопец з нашай вёскі, будзе жаніцца на дзяўчыне з горада. Вяселле праз месяц. Мне не цярпелася паглядзець на тую гараджанку, бо я ў свае сем гадоў, акрамя суседняй вёскі, нідзе не была.

...І вось той дзень настаў. Пачатак лета. Сонечнае надвор'е. Маладыя сядзелі на покуце, збянтэжаныя ўсеагульнай увагай, а моладзь кружылася ў танцах пад гармонік і цымбалы. Нявеста, прыгожа апранутая, з высокай прычоскай, адчувала сябе ніякавата, бо над ёй, як пчаліны рой, віліся зялёныя, тлустыя мухі. Вясковыя жанчыны нават пачалі ўпотай падсмейвацца: «Няйначай, гараджанка трошкі папсаваная». Не вытрымаўшы націску крылатых стварэнняў, нявеста са слязьмі на вачах выскачыла з-за стала, а за ёю – і жаніх.

З'явіліся яны праз некалькі гадзін. Дзяўчыну нібы падмянілі: ні шыкоўнай прычоскі, ні суправаджэння над яе галавой не было. І толькі пасля мы даведаліся, што нявеста змачыла накручаныя на матузкі валасы (бігудзі на той час не было) падсалоджанай вадой, каб добра трымаліся. Таму мухі да яе і ліплі.

Ох, якую вялікую цану давялося заплаціць гараджанцы за тую прыгажосць! Мінула шмат часу, але калі гэта сям'я прыязджала ў вёску, людзі ціха падсмейваліся: «Вунь Росцік з папсаванай ідуць!» Так за ёй гэта мянушка і засталася...




**Галіна НІЧЫПАРОВІЧ,**
*Уздзенскі раён, в. Магільна.*

# Сцэны медыц~~ы~~эны



Малюнак Юрыя МІХАЙЛАВА.



Малюнак Алега ПАПОВА.




Малюнак Алега ПАПОВА.




Малюнак Юрыя МІХАЙЛАВА.




Малюнак Аляксандра КАРШАКЕВІЧА.



Малюнак Алега ПАПОВА.

# Інтэрнэт: жартуе



:) :) :) :) :) :) :) :) :)

## Анекдоты

Мужчына гуляе з аслом у шахматы. Падыходзіць прахожы здзіўлена пытаецца:
– Хіба твой асёл умее гуляць у шахматы?
– А няўжо ж, умее!
– І што, добра гуляе?
– Ды дзе там... 3:2. Выйграю!



– Не ведаеце, як пахудзець? Шклянку вады за тры дні да яды!



— Ну, і дзе там твой зуб мудрасці?



– Вырашыў адпачыць, паехаў у лес. Але там мяне ўжо чакалі, напалі без усялякага папярэджання, давялося ўцякаць. Прыехаў на дачу – знайшлі і там, ізноў да крыві дайшло. Выйшаў вечарам пагуляць – і адкуль яны толькі даведаліся, дзе я?.. Цікава, ці ёсць дзе месца, дзе няма камароў?



— Ды не хачу я знаёміцца з вашымі дэльфінамі!



– Сідараў, вы хочаце пазычыць у мяне пяць тысяч долараў? А дзе гарантыя, што вы іх вернеце?
– Я даю вам слова чэснага чалавека!
– Добра, я вас чакаю сёння ўвечары разам з гэтым чалавекам.



Лоўля на паласатага жыўца.




А што выбіраеш ты?

# ўвесь свет!

:) :) :) :) :) :) :) :) :) :)






## АДНЫМ СКАЗАМ

З гадамі каханне да жанчыны перарастае ў кулінарна-бытавую залежнасць.

Ён быў настолькі сквапным, што калі сасніў, быццам вячэрае ў рэстаране, хутчэй прачнуўся, каб не плаціць.

Пяцігадовы Пеця цэлы дзень прахадзіў галодны, бо бабуля не ведала, як адчыніць шклопакет, каб паклікаць унука паесці.

На медальным заводзе выдалі зарплату прадукцыяй. Вечарам дахаты разыходзіліся сумныя майстры спорту, чэмпіёны Еўропы і Свету.

Жанчына ўшчэнт разбіла мужчынскую логіку пасля таго, як паўгадзіны тлумачыла супрацоўніку ДАІ, што правы засталіся ў сумачцы, бо ўчора яна была ў іншых басаножках.

Чаму мужчынская фраза «Выходзь за мяне замуж!» гучыць як прапанова, а жаночая «Ажаніся са мной!» – як патрабаванне?

## Анекдоты

Адэса. Стараконны рынак.
– Мадам, купіце коціка!
– А якой ён пароды?
– Сібірскі.
– Не можа быць, у яго ж поўсць кароткая!
– Мадам, я вам-такі нічога не скажу за яго поўсць, але жарэ ён выключна пяльмені!






– Ура! Рабочы дзень скончыўся!

☺ ☺ ☺

Размаўляюць два знаёмыя:
– Эх, учора ледзь не спёкся! Жонку імем палюбоўніцы хацеў назваць. Давялося котку Весці і Машкай назваць. Цяпер з гэтым усё ў парадку.
– А чаго ты такі змрочны?
– Тыдзень назад жонка пітбуля купіла. Абы-там назвала. Вось і маракую, што да чаго...




## Крыжаслоў «Лета»

**Па гарызанталі: 1.** Вялікая драпежная рыба з вусамі. **2.** Блізня кукіша. **4.** Косцепадобны орган, які адказвае за мудрасць чалавека. **5.** Небяспечная істота, якая можа напаткацца ў лесе. **6.** На бязрыб'і і ... рыба. **7.** На ім косяць і сушаць сена. **9.** Нехта збірае ў ім грыбы і ягады, а нехта расце, гледзячы на яго. **11.** Травяністая сінявокая расліна.

**Па вертыкалі: 2.** Моцны вецер на моры. **3.** Чалавек, які «прафесійна» падманвае. **4.** Некаторыя едуць па яго на мора, некаторыя атрымліваюць яго на возеры ці рэчцы. **8.** Час, які назіраюць рыбакі і касцы. **9.** Начная птушка, якая любіць насякомых. **10.** Яно дае святло, цяпло і... добры настрой.



Малюнак Алега ПАПОВА.




Малюнак Вікенція ПУЗАНКЕВІЧА.




Малюнак Алега ПАПОВА.

**«Вожык» — грамадска-палітычны, літаратурна-мастацкі часопіс**

№ 7 (1486), 2012 год.

*Выдаецца з ліпеня 1941 года.*
*Часопіс «Вожык» зарэгістраваны ў Міністэрстве інфармацыі РБ. Рэгістрацыйны № 520.*

Заснавальнікі – Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, РВУ «Літаратура і Мастацтва».

Галоўны рэдактар
Юлія Францаўна ЗАРЭЦКАЯ.



**Рэдакцыя:**
Павел САКОВІЧ *(аддзел літаратуры),* Алесь НАВАРЫЧ *(аддзел фельетонаў і пісьмаў),* Аляксандр КАРШАКЕВІЧ *(намеснік галоўнага рэдактара, мастацкі аддзел).*

*Рэдактар стылістычны* Марыя ПЛЕВІЧ.
*Камп'ютарная вёрстка*
Алена МАКАРЭНКА.

**Юрыдычны адрас: 220005, Мінск, праспект Незалежнасці, 39.**

**Адрас рэдакцыі:**
**220005, Мінск,**
**праспект Незалежнасці, 39.**
**E-mail:a-vojik@yandex.ru**

***Тэлефоны:***
***галоўнага рэдактара — 288-24-62, намесніка галоўнага рэдактара, аддзела літаратуры, мастацкага аддзела — 284-84-52, бухгалтэрыі — 284-66-72, факс — 284-84-61.***



Падпісана да друку 08.06.2012
Фармат 60x84 1/8.
Афсетны друк.
Папера афсетная.
Ум. друк. арк. 2,79.
Ул.-выд. арк. 3,89.
Тыраж 1990 экз.
Заказ 1906.

Кошт нумара ў розніцу 12 900 руб.

Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку».
220013, Мінск,
праспект Незалежнасці, 79.
ЛП № 02330/0494179 ад 3.04.2009.